


Са святам вясны і прыгажосці, дарагія жанчыны!

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

**Выдавец:** Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК. Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 10 (778) 5 сакавіка 2015 года. Кошт свабодны.**





У 1950-я гады ў СССР з'явіўся такі жанр як аўтарская песня. Ён папулярны і сёння. З гэтай нагоды ў Глыбокае, да мясцовай грамадзянскай супольнасці, завітаў Зміцер Бартосік, бард і журналіст. Ён выканаў аўтарскія песні У. Высоцкага, Б. Акуджавы і А.Вярцінскага, дзе пераклад словаў да якіх, з рускай на беларускую мову, зрабіў наш незабыўны беларускі паэт Рыгор Барадулін. *Фота Уладзіміра Скрабатуна.*

## У Глыбокім адбудзецца публічны торг па прожажы маёмасці

**Аддзел прымусовага выканання Глыбоцкага раёна аб'яўляе пра правядзенне публічнага торгу па продажы маёмасці, якая належыць Стоціку Мікалаю Іванавічу:**

– капітальнага будынка (аднапавярховы драўляны дом, з плацам 29,4 кв.м.), на зямельным участку, змешчаным на праве пажыццёвага спадчыннага валодання, плошчай 0,25 га.

**Пачатковы кошт 12 000 000 рублёў.**

Падрабязная інфармацыя пра маёмасць змешчана на сайце: ***www.vitebsk-region.gov.by***, а таксама ў памяшканні суда Глыбоцкага раёна вул.Савецкая, 4, г.Глыбокае, каб.2

Торг адбудзецца 10.03.2015 года ў 15.00 па адрасе: вул.Савецкая, в.4, г.Глыбокае .

За дадатковай інфармацыяй звяртацца: Судовы выканавец Бруханава Е.А.

Тэл.: 8(02156) 2-13-47, факс 8 (02156) 2-30-88, маб. тэл.: 8 (029) 718-75-19.

Задатак у памеры 10% ад коштумаёмасціпавіненбыць пералічаны на дэпазітны рахунак галоўнага ўпраўлення юстыцыі Віцебскага аблвыканкама (АПВ Глыбоцкага раёна) (разліковы рахунак 3642903008014 ЦБУ № 208 г.Глыбокае, ф-ла № 216 ААТ "АСБ Беларусбанк" г.Полацак, код 648, *УНН 300002505*)".



## Беларусы пабачаць найвялікшае за 16 год сонечнае зацьменне 20 сакавіка

**Сонца схаваецца за Месяцам у 13:06.**

Як паведамляе TUT.BY са спасылкай на навучальна-навуковую астранамічную лабараторыю БДУ, беларусы пабачаць з 11:57 да 14:15 20 сакавіка сонечнае зацьменне.

Зацьменне стане самым вялікім са жніўня 1999 года.

## Лепельскі раён

# І ў арміі крадуць

■ Станіслаў Раманчук.

**Яшчэ летась у пачатку восені ў Беларусі былі ліквідаваны ў войсках ваенныя пракуратуры, а іх функцыі перадалі спецыяльна створаным пры абласных пракуратурах новым аддзелам па наглядзе за выкананнем заканадаўства ў арміі.**

У цэлым абстаноўка ў беларускім войску нармальная. За год у 74 воінскіх часцях, якія размешчаны на тэрыторыі вобласці, выявілі 12 злачынстваў, з якіх – тры крадзяжы. Найбольш рэзананснай стане крымінальная справа па факце значнага недахопу паліва і змазачных матэрыялаў у падраздзяленнях 19-й механізаванай брыгады, якая даўно дыслакуецца ў Лепельскім раёне. Як выявіла праверка, там у часцях ваеннага гарадка Заслонава, неналежным чынам вёўся яго ўлік і амаль на 300 мільёнаў рублёў людзі ў пагонах па-сутнасці скралі бензін для ўласных патрэб. Зараз следчыя абласной пракуратуры разбіраюцца не толькі з камандваннем часці, але і з іншымі матэрыяльнаадказнымі афіцэрамі і прапаршчыкамі. Не чакаючы аргвывадаў, патэнцыяльныя вінаватыя ўжо кампенсавалі добраахвотна матэрыяльны ўрон у суме больш 120 мільёнаў рублёў. Аднак гэта справа можа дайсці і да суда, а вышэйстаячае камандванне прыме меры да тых, хто хацеў нажыцца за кошт маёмасці часці. Дарэчы, яшчэ адзін афіцэр у вобласці таксама сапсаваў сваю армейскую кар'еру, калі падчас рамонту казармы прысвоіў сабе двое дзвярэй ПВХ. Такіх гора-службоўцаў з арміі, як правіла, звальняюць, а вось радавога пакаралі ў дысцыплінарным парадку арыштам за крадзёж мабільнага тэлефона ў свайго ж саслужыўца.

## Гарадоцкі раён

# За здаровы лад жыцця

■ Чэслаў Якубовіч.

**Вытрымліваць паспяхова каласальныя нагрузкі кіраўнікам розных рангаў, як паказвае практыка, удаецца найперш тым, хто сябруе з фізкультурай і спортам, шмат рухаецца.**

Вельмі многіх здзівіў выдатнай фізпадрыхтоўкай на свяце праводаў зімы і "Віцебскай лыжні-2015", якое прайшло ва ўрочышчы Вараб'ёвы Горы пад Гарадком, новы глава вобласці Мікалай Шарстнёў. У каманднай лыжнай эстафеце на складанай трасе і адной з лепшых у краіне ў групе гарадскіх адміністрацый ён прыняў заключны этап на трэцім месцы, аднак развіў вялікую хуткасць і прынёс зборнай камандзе супрацоўнікаў аблвыканкама перамогу. Як потым прызнаўся глава Прыдзвіння, ён на лыжах не бегаў даўно, але да гэтых спаборніцтваў рыхтаваўся і трэніраваўся цэлы тыдзень. Асабліва няпросты даўся яму круты пад'ём, але ж сіл і вытрымкі хапіла, каб захаваць хуткасць на трасе. Усяго ж паблізу Гарадка на лыжню выйшлі амаль 800 лыжнікаў розных узростаў з усіх куткоў вобласці, а сярод раёнаў перамогу атрымала каманда Верхнядзвінскага раёна. Пасля невялікага адпачынку, дарэчы, старшыня аблвыканкама зноў прадэманстраваў цудоўную фізічную форму. У сваё 53 гады ў групе ветэранаў кіраўнік вобласці паказаў найлепшы вынік у пад'ёме гіры – 44 разы. Праўда, гэтаму здзіўляцца не выпадае, бо Мікалай Мікалаевіч сябруе з фізкультурай даўно, ён стаў у маладосці нават майстрам спорту па цяжкай атлетыцы і арыентуе сваіх падначаленых асабістым прыкладам весці здаровы лад жыцця.

## Пастаўскі раён

# Толькі два дні

■ Кастусь Александровіч

**Цяперашняя няпростая эканамічная сітуацыя прымушае лічыць кожны рубель і сур'ёзна эканоміць на расходах.**

Услед за музычным фестывалем мастацтваў у Віцебску яшчэ летась у адным з прыгажэйшых куткоў вобласці ў Паставах скарацілі да двух дзён праграму правядзення Міжнароднага фестывалю народнай музыкі "Звіняць цымбалы і гармонік". Як аказалася, гэта было правільнае і рацыянальнае рашэнне. Удалося год назад разам з правядзеннем самога музычнага фэсту правесці і Дзень горада з нагоды яго 605-годдзя. Адзінае, што гараджанам і гасцям райцэнтра прыйшлося выбіраць, дзе пабываць, бо адначасова праходзілі мерапрыемствы ў розных месцах. Летась у Паставы прыехалі цікавыя калектывы і выканаўцы з 8 краін свету і таксама яшчэ ўпершыню артысты з Грузіі, знакаміты Дзяржаўны ансамбль пенсі і танца Аджарыі. Яго выступленні зрабілі тады сапраўдны фурор, бо гэты калектыў бліскуча гастраляваў у паўсотні дзяржаў свету. Падчас фестывалю ў Паставах у мінулым годзе адкрылі новую скульптуру ў гарпарку, залу 3D у кінатэатры "Радзіма" і філіял краязнаўчага музея ў Палацы Тызенгаўзаў. Таму і сёлета самы заходні горад Прыдзвіння прыме свята народных талентаў у другія выхадныя ў пачатку лета – 13-14 чэрвеня. Гэта будзе юбілейны 25-ты па ліку і самы адметны фестываль народнага мастацтва ў Беларусі, а з нагоды Года моладзі болей плануюцца сёлета розных імпрэз і забаўляльных праграм для маладога пакалення.

## Аб самым надзённым

# ПАЗБЕГНУЦЬ ПАГАРШЭННЯ ЭКАНАМІЧНАЙ СІТУАЦЫІ І СПАДУ ВЫТВОРЧАСЦІ СЁЛЕТА Ў БЕЛАРУСІ НЕ АТРЫМАЕЦЦА




■ Аляксандр Цішкевіч.

**Між тым на пасяджэнні Саўміна глава ўрада А. Кабякоў заявіў, што будзе здымацца паступова сёлета мараторый на рост цэн. Міністэрства эканомікі ў другім квартале года прыме адпаведную пастанову аб свабодным цэнаўтварэнні.**

Чамусьці сёлета ў мітусні штодзённых будняў рэдка прыходзяць да беларусаў прыемныя навіны, бо вакол Беларусі адбываюцца трывожныя і драматычныя падзеі на фоне ваенных дзеянняў у Данбасе. Праўда, калі ў многіх месцах нашай краіны індывідуальныя прадпрымальнікі заявілі аб магчымым зыходзе з рынкаў і спыненні сваёй дзейнасці, то ўлада іх пачула. У іншым выпадку гандляры перасталі б плаціць арэнду і падаткі, пра што шмат гаварылася на форуме, які прайшоў у Мінску, з удзелам 1200 дзелавых людзей. У выніку індывідуальным прадпрымальнікам і юрыдычным асобам, звязаным з закупкамі і продажам тавараў лёгкай прамысловасці, далі яшчэ адтэрміноўку на 3 месяцы.

Кіраўнік Беларусі А. Лукашэнка адмяніў уласны указ аб выкананні патрабаванняў тэхрэгламенту Мытнага саюза і ЕАЭС па бяспецы і якасці тавараў. Да 1 чэрвеня ў гандляроў з'явіцца дадатковы час прадаць свае запасы адзення і абутку без дакументаў, не апасаючыся, што тавар канфіскуюць і выпішуць яшчэ буйны штраф. Таксама двойчы ў лютым і сакавіку ў Беларусі вырашылі крыху падняць стаўку першага разраду, бо цэны і так растуць хутчэй, чым даходы працаўнікоў. Пакуль жа Міністэрства гандлю Беларусі стала патрабаваць, каб прадпрымальнікі вялі разлікі ў беларускіх рублях. За выкарыстанне замежнай валюты і нават такую рэкламу прадугледжваюцца штрафы і розныя санкцыі аж да закрыцця інтэрнэт-крам.

Між тым на пасяджэнні Саўміна глава ўрада А. Кабякоў заявіў, што будзе здымацца паступова сёлета мараторый на рост цэн. Міністэрства эканомікі ў другім квартале года прыме адпаведную пастанову аб свабодным цэнаўтварэнні. Беларускі ўрад таксама вызначыў 106 найважнейшых для краіны прадпрыемстваў, якімі зоймуцца ў "ручным рэжыме" дапамагаць, аналізаваць сітуацыю. Таксама важнейшыя айчынныя заводы і фабрыкі не плануецца прыватызаваць сёлета, іх не ўключылі ў адпаведны спіс. А абстаноўка цяпер на вельмі многіх айчынных прадпрыемствах і ў арганізацыях вельмі трывожная. Аб многім гаворыць той факт, што толькі прамысловасць Беларусі вінаватая цяпер за спажытыя энергарэсурсы болей 1,83 трыльёнаў рублёў, прычым у студзені даўгі выраслі на 35 %, альбо на 480 млрд. рублёў.

Прадпрыемствы канцэрна "Беллеспаперапрам" у студзені гэтага года асабліва "вызначыліся", аплацілі толькі 41 % спажытай электра і цеплаэнергіі, а вось насельніцтва аплачвае ўжо 80 % выдаткаў на свет. Рост такіх неплацяжоў назіраўся ва ўсіх абласцях краіны і ў сталіцы. У праграму дзеянняў беларускага ўрада ўжо ўнеслі адпаведныя карэктывы, зыходзячы з сярэдняй цаны нафты ў памеры 50 долараў за барэль. Прыйдзецца перагледзець і дзяржаўны бюджэт Беларусі на 2015 год, бо ён разлічваўся пры параметрах 83 $/барэль і з улікам сярэднегадавога курсу долара 11400 беларускіх рублёў. Чарговая дэвальвацыя нацвалюты і эканамічны крызіс у Расіі робіць сваю чорную справу і ўжо афіцыйна прагназуецца, што беларускі экспарт сёлета знізіцца на 3-4 %.

Суседняя Расія сёлета пад уплывам заходніх фінансавых санкцый так моцна прагнулася, што расіяне збяднелі за год у 2 разы. Пакупніцкая здольнасць РФ таксама зніжаецца, а гэта ж – галоўны пакупнік беларускіх тавараў і наш асноўны рынак збыту. Эканоміка ўсходніх суседзяў ад санкцый і зніжэння сусветных цэн на нафту страціла ўжо 200 млрд. долараў. Сёлета зімой прадукты харчавання для рускіх выраслі ўжо на 20-40 %, сталі даражэйшыя і іншыя прамысловыя тавары. У выніку золатавалютныя рэзервы РФ ужо меней 390 млрд. USD, ужо з наступнага 2016 года збіраюцца паэтапна там павышаць пенсійны ўзрост, паколькі У. Пуцін даў такія ўказанні.

Да 70-й гадавіны Вялікай Перамогі не будуць выплочваць расійскім ветэранам ніякіх выплат, бо настолькі цяжка стала з грашыма ў дзяржбюджэце РФ, яго прыйшлося "ўрэзаць" на значную суму. Добра вядома аб тым, якая вялікая залежнасць беларускай эканомікі ад менавіта Расіі і пакуль там не стане лепей, будуць вялікія цяжкасці і праблемы і ў нас. Невыпадкова беларускі прэм'ер на пасяджэнні ўрада аб'явіў, што сёлета прыйдзецца вымушана знізіць на 25,5 трлн. аб'ёмы фінансавання розных праграм з дзяржпадтрымкай з-за недахопу грошай. На месцах цяпер прыйдзецца вырашаць іншую праблему: як захаваць працоўныя калектывы, не дапусціць росту беспрацоўя.

Шчыра кажучы, падстаў для аптымізму няшмат з-за неспрыяльных знешніх фактараў. У дадатак Беларусі сёлета трэба выплаціць больш 4 млрд. долараў па ранейшых даўгах. Існуе пагроза, што заходнія санкцыі супраць Расіі будуць толькі ўзрастаць з-за падтрымкі прарасійскіх баевікоў у Данбасе, якія сталі нарошчваць свае сілы і сучасную расійскую ваенную тэхніку ў новым напрамку Марыупаля.

### Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 05.03.15 | | | | Пятніца 06.03.15 | | | | Субота 07.03.15 | | | | Нядзеля 08.03.15 | | | | Пан. 09.03. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +1 | 0 | +1 | 0 | 0 | 0 | +1 | 0 | -1 | 0 | +2 | +2 | +1 | +1 | +3 | +4 | +4 | +3 | +7 |
| Ціск | 748 | 751 | 753 | 755 | 756 | 757 | 757 | 757 | 756 | 756 | 757 | 758 | 759 | 758 | 757 | 755 | 754 | 753 | 753 |
| Вільготнасць | 97 | 96 | 88 | 90 | 95 | 95 | 80 | 84 | 91 | 97 | 85 | 95 | 92 | 92 | 90 | 93 | 95 | 96 | 81 |
| Вецер м/сек | 1 Пд | 3 Пн-З | 5 З | 5 Пн-З | 4 Пн-З | 2 Пн-З | 3 З | 3 З | 2 Пд-З | 2 Пд-З | 3 Пд-З | 3 З | 3 З | 4 Пд-З | 6 Пд-З | 5 Пд-З | 5 Пд-З | 5 Пд-З | 7 З |

## Дзень за днём

**Спад вытворчасці ў Беларусі ў студзені склаў 6,2 %. Летась колькасць айчынных нерэнтабельных дзяржпрадпрыемстваў вырасла больш чым на чвэрць. Страты дзяржбюджэту сёлета вырашана кампенсаваць за кошт асобных паспяховых імпарцёраў. У пачатку сакавіка многія прадпрымальнікі на рынках спынілі сваю дзейнасць. Колькасць беспрацоўных сёлета, па афіцыйных прагнозах, можа павялічыцца на 20 %, падзенне ВУП – 1,5 %. Напрыканцы лета ў Беларусі з'явіцца мабільная сувязь 4-га пакалення (LTE). Па росце цэн на прадукты харчавання Расія ўжо трэці месяц абганяе Беларусь.**

# Важнейшыя навіны свету

**Бельгія.** Генсек НАТО Йенс Столтэнберг заявіў, што альянс мае дакументальныя дадзеныя аб ваеннай прысутнасці Расіі на ўсходзе Украіны з танкамі, сістэмамі СПА.

**ЗША.** Дзяржаўны дэпартамент краіны рэзка абвінаваціў Расію і падтрымліваемых ёй баевікоў у парушэннях рэжыму спынення агню на ўсходзе Украіны, дзе зноў пачалі гінуць мірныя людзі.

**Украіна.** Савет нацыянальнай бяспекі і абароны падтрымаў прапанову прэзідэнта П. Парашэнкі аб уводзе ў краіну міратворчай місіі войск ААН, бо РФ не спыняе агрэсію.

**Грэцыя**. Новы папулісцкі ўрад краіны адхіліў прапановы міністраў фінансаў еўразоны аб прадаўжэнні праграмы фінансавай дапамогі, грэкі залезлі ў вялізныя знешнія даўгі.

**Расія.** Адыёзны лідар ЛДПР і віцэ-спікер Дзярждумы РФ У. Жырыноўскі прыгразіў давіць фінаў, прыбалтаў і палякаў, а Кіеў навогул спаліць напалмам, напаў і на А. Лукашэнку.

**Швецыя.** Моцнае абурэнне палітыкаў і многіх шведаў выклікала апублікаванае СМІ пісьмо спікера Дзяржадумы РФ С. Нарышкіна з пагрозамі пачаць вайну з Еўропай.

**Егіпет.** Авіяцыя краіны нанесла моцныя ўдары па пазіцыях баевікоў "ісламскай дзяржавы" ў Лівіі пасля адразання імі галоў 21 выкрадзенаму хрысціяніну-егіпцяніну.

**Англія.** Кампанія па выбарах у маі парламента краіны набірае ход, прэм'ер-міністр Дэвід Кемеран паказаў брытанцам нават уменне кіраваць так поездам упэўнена, як і нацыяй.

**Грузія.** Прызнанне экс-прэзідэнта Міхаіла Саакашвілі старшынёй Міжнароднай кансультатыўнай рады рэформ прывяло да абвастрэння адносін Тбілісі і Кіева.

**Казахстан.** Савет Асамблеі народа краіны выказаўся за правядзенне датэрміновых прэзідэнцкіх выбараў, Нурсултан Назарбаеў нязменна кіруе казахамі з яшчэ 1990 года.

**Расія.** Крызіс прывёў да спынення працы буйнейшага ў РФ Цверскага вагонабудаўнічага завода. Ваенны завод-гігант у Свярдлоўску, Чэлябінскі ЧТЗ звольняць па 5 тысяч чалавек.

**Украіна.** У жыхароў Данбаса было 23 гады, як заявіў палітолаг Юрый Раманенка, каб зразумець, што такое сучасны свет і куды ён ідзе, а выбралі дэградацыю і самагубства.

**Літва.** Буйныя гандлёвыя сеткі Іkі, Maxima і Rimmi знізілі на 10 % і болей цэны на асноўныя прадукты харчавання перад прыходам французскага канкурэнта сеткі Lidl.

**Англія.** Калі пермір'е ўтрымаецца, як заявіла газета Independent, то Пуцін пераўтворыць Данбас у буферную зону па тыпе Прыднястроўя і Абхазіі, гэта асноўная задача Крамля.

**Расія.** Адразу 8 салдатконтрактнікаў з Мурманскай вобласці ўступілі ў публічны канфлікт з камандаваннем і адмовіліся ваяваць ва Украіне, ім прыгразілі звальненнем.

## У Беларусі вызначаны парадак абмежавання доступу да інтэрнэт-рэсурсаў




■ БЕЛТА

**У Беларусі вызначаны парадак абмежавання доступу да інфармацыйных рэсурсаў (іх састаўных частак), размешчаных у глабальнай сетцы інтэрнэт.**

Адпаведную пастанову ААЦ і Мінсувязі №6 / 8 апублікавалі на Нацыянальным прававым партале, паведамляе БЕЛТА.

Палажэнне прадугледжвае абмежаванне доступу да інфармацыйных рэсурсаў, уладальнікам якіх на працягу года вынесла два і больш пісьмовых папярэджанні Міністэрства інфармацыі. Акрамя таго, блакавацца будуць сайты, якія змяшчаюць інфармацыйныя паведамленні і (або) матэрыялы, накіраваныя на незаконны абарот наркотыкаў, ці іншую інфармацыю, забароненую або абмежаваную да распаўсюджвання ў адпаведнасці з заканадаўчымі актамі Рэспублікі Беларусь, а таксама якія ўступілі ў законную сілу рашэннямі суда. Будзе абмежаваны доступ і да тых рэсурсаў, уладальнікі якіх не выканалі законнае патрабаванне дзяржаўнага органа аб ліквідацыі парушэнняў заканадаўства аб СМІ.

Спіс абмежаванага доступу фарміруецца Дзяржаўнай інспекцыяй Рэспублікі Беларусь па электрасувязі на падставе рашэнняў, якія прымаюцца Міністэрствам інфармацыі, у выпадках і парадку, устаноўленых заканадаўчымі актамі. Доступ да яго прадастаўляецца Міністэрству інфармацыі, Міністэрству сувязі і інфарматызацыі, органам, якія ажыццяўляюць аператыўна-вышуковую дзейнасць, органаў пракуратуры і папярэдняга следства, органам Камітэта дзяржаўнага кантролю, падатковым органам, судам, пастаўшчыкі інтэрнэтпаслуг. Дзяржінспекцыя па ўзгадненні з Мінсувязі мае права прадастаўляць доступ да згаданага спісу іншым дзяржаўным органам і арганізацыям у адпаведнасці з іх кампетэнцыяй, вызначанай заканадаўствам.

Дзяржаўныя органы і арганізацыі пры выяўленні фактаў парушэння павінны накіроўваць у Мінінфарм пісьмовае паведамленне, дзе будуць пазначаны назва і адрас рэсурсу, а таксама парушаныя нормы. Блакаванне рэсурсу можа адбывацца і па ініцыятыве грамадзян Беларусі, для гэтага яны павінны накіраваць запыт у адпаведнае ведамства. Калі Мінінфарм прымае рашэнне аб блакаванні, то на працягу трох дзён паведамляе аб гэтым уладальніка рэсурсу, а таксама Дзяржінспекцыю па электрасувязі, якая ў дзень атрымання копіі апавяшчэння абавязана ўключыць гэты сайт у спіс абмежаванага доступу. Затым правайдэры павінны на працягу сутак зачыніць да яго доступ.

Уладальнік заблакаванага інтэрнэт-рэсурсу ў выпадку ліквідацыі парушэнняў заканадаўства мае права пісьмова звярнуцца ў Міністэрства інфармацыі з заявай аб аднаўленні доступу. Ведамства на працягу месяца правярае факт ліквідацыі парушэнняў і пасля ўзгаднення з органам, якія ініцыявалі блакаванне, прымае рашэнне аб аднаўленні доступу. Калі рашэнне станоўчае, то на працягу трох дзён Мінінфарм абавязаны накіраваць апавяшчэнне ў Дзяржінспекцыю па электрасувязі, якая выключыць рэсурс з спісу. Пасля гэтага правайдэры змогуць адкрыць да яго доступ.

Дадзеная пастанова ўступае ў сілу пасля яго афіцыйнага апублікавання.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** А. Лукашэнка адзначыў, што беларуская армія павінна адэкватна рэагаваць на цяперашнія выклікі і пагрозы, вакол Беларусі цяпер вельмі напружаная сітуацыя.

**Мінск.** У выніку аптымізацыі штату толькі на МАЗе колькасць працуючых зменшылася яшчэ на 2100 чалавек, на 300 работнікаў болей мінчан скараціў ААТ "Гродна-Азот".

**Брэст.** На многіх прадпрыемствах горада пачаліся вымушаныя прастоі і скарачэнні, нават паспяховыя "Інка-Фуд" і "Санта" пачалі адпраўляць людзей увымушаныя водпускі за свой кошт.

**Мінск.** Рэцэсія прамысловасці ўжо рэальнасць, як пацвердзіў эканаміст Я. Раманчук, бо выпуск самазвалаў, грузавікоў, станкоў, пральных машын скараціўся ў нас у 2,9-3,6 разы.

**Гомель.** У момант атрымання хабару ў суме 50 мільёнаў рублёў за спрыянне пры заключэнні дагавору будаўнічага падраду КДБ затрымаў дырэктара птушкафабрыкі.

**Мінск.** З-за крызісу і падзення ўзроўню жыцця ў рэстаранах сталіцы колькасць кліентаў скарацілася на 30 %, а ў асобных – у 2 разы, лепш сітуацыя ў сталовых і кафейнях.

**Мсціслаўль.** Пад раніцу па невядомай прычыне загарэўся і поўнасцю згарэў буйны двухпавярховы прыватны магазін мэблі і будаўнічых матэрыялаў, ён не быў застрахаваны.

**Мінск.** Фінансавы аналітык В. Іосуб папярэдзіў, што сёлета нават перад прэзідэнцкімі выбарамі ў Беларусі няма рэсурсаў для павышэння беларусам заробкаў, стыпендый-пенсій

**Кобрын.** На тэрыторыі раёна на ўчастку Пінскага пагранічнага атрада з боку Украіны група з 20 невядомых на конях спрабавала прарвацца праз граніцу, прыйшлося пачаць страляць па іх.

**Мінск.** Галоўны рэдактар газеты "СБ. Беларусь сегодня" П. Якубовіч параўнаў расійскі тэлеканал НТБ з "паслужлівым дурнем", заклікаў спыніць градус узаемнай нянавісці.

**Брэст.** Рассельгаснагляд узмацніў лабараторны кантроль за рыбнай прадукцыяй буйной айчыннай кампаніі "Санта Брэмер", рускія знайшлі быццам бактэрыі ў філе сёмгі.

**Мінск.** Сталічных студэнтаў і выкладчыкаў у добраахвотна-прымусовым парадку зганялі для забеспячэння масавасці падчас чэмпіянату свету па біятлоне сярод юніёраў і юнакоў.

**Ашмяны.** З-за паломкі электраабсталявання вечарам зламаўся пасажырскі цягнік Мінск-Вільнюс, прастаяў 2 гадзіны на станцыі пакуль завёўся і адправіўся далей па маршруце.

**Мінск.** За атрыманне 4 разы хабару суд пакараў 51-гадовага былога рэктара Інстытута культуры Беларусі К. Рэмішэўскага 5 гадамі турмы з канфіскацыяй маёмасці.

**Раубічы.** А. Лукашэнка гнеўна загадаў у апошні раз тут рыхтавацца да міжнародных спаборніцтваў беларускім біятланістам і лыжнікам, а не на зборах за граніцай.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Па выніках 2014 года ў вобласці стала ўжо 168 стратных прадпрыемстваў і арганізацый (16,2 % ад агульнай колькасці), найгорш справы ў прамысловасці (30,7 %).

**Шуміліна.** Абласны суд за карупцыйныя дзеянні пазбавіў пракурорскіх званняў пракурора раёна і яго намесніка, ім далі па 8 і 7 гадоў турмы ўзмоцненага рэжыму.

**Паставы.** З-за праблемнага бельгійскага абсталявання не ўдаецца запусціць на поўную магутнасць абноўлены льнозавод, не загружаны поўнасцю сыравінай і новы малзавод.

**Віцебск.** Эканамічны суд вобласці пачаў працэдуру банкруцтва ААТ "КІМ" і прызначыў часовага ўпраўляючага гаротным прадпрыемствам, якое бядуе ўжо 3 гады запар.

**Орша.** На месцы былога ліцейнага цэха завод "Легмаш" пачаў узвядзенне новага корпуса па выпуску да 210 тысяч тон у год халоднадэфармаванай арматуры і вырабаў з яе.

**Віцебск.** Мясцовы камбінат дзіцячага харчавання прынёс прабачэнні і кампенсаваў урон маладой сям'і гараджан, калі ў баначцы пюрэ дзіця ледзь не з'ела кусочак шкла.

**Чашнікі.** Суд пакараў 9,5 гадамі турмы 20-гадовага беспрацоўнага жыхара Новалукомля за паўторнае набыццё буйной партыі спайсу і захоўванне ў тайніку ля гарадскога рынку.

**Браслаў.** У мясцовым музеі традыцыйнай культуры стварылі для наведвальнікаў аўдыёгід з 12 трэкаў аб гісторыі стварэння народных касцюмаў, ткацтва, разьбы азёрнага краю.

**Глыбокае.** Да радасці жыхароў вёскі Арэхаўна, іх зямляк Дзмітрый Якімовіч выкупіў закінуты будынак, адрамантаваў і адкрыў краму, раней людзей абслугоўвала аўталаўка.

**Наваполацк.** У горадзе пачалі ўстаноўку памятных таблічак з надпісам "Тут пражывае ветэран Вялікай Айчыннай вайны" на дзвярах 125 кватэр гараджан, удзельнікаў вайны.

**Ушачы.** Упершыню за 40 гадоў з абласнога бюджэту выдзеліці сродкі для рэстаўрацыі мемарыяльнага комплексу "Прарыў", дзе з акружэння вырваліся 16 атрадаў партызан.

**Верхнядзвінск.** На Кургане Дружбы на стыку граніц РФ, Беларусі і Латвіі воіны Полацкага пагранатрада перадалі эстафету Перамогі уздоўж граніц СНД калегам з Расіі.

**Падсвілле.** У другой палове дня ў гарпасёлку загарэўся 2-павярховы жылы дом, маладая маці ратуючы сына, выскачыла ў акно, у палаючым будынку загінуў яе бацька 48 гадоў.

**Браслаў.** Два неахайныя рыбакі за выкінутыя на лёд недакуркі і іншае смецце на возерах Обаль і Кракіна атрымалі ад інспектараў штрафы ў суме 75 і 300 тысяч рублёў.

**Орша.** Каля 30 гараджанак пазбавіліся ў судзе купленых з рук залатых кольцаў і іншых ювелірных упрыгожванняў, яны сталі рэчавымі доказамі па справе аб незаконным гандлі.

*Служба інфармацыі "ВГ".*



Кастусь Шыталь
*краязнаўца*

# Падсвільская бібліятэка атрымала падарунак – часопіс 1932 года

**Мястэчковай бібліятэцы ў Падсвіллі (Глыбоцкі раён) быў падараваны арыгінальны асобнік часопіса "Przegliąd Katolicki" №9 за 28 лютага 1932 года. У часопісе надрукаваныя фотаздымак касцёла ў Падсвіллі, які быў асвечаны 2 лютага 1932 года, і кароткая нататка пра яго будаўніцтва.**

Часопіс набыў на аўкцыёне ў Польшчы за 25 злотых ($6,75) малады хлопец з-пад Глыбокага, які пажадаў, каб яго імя не друкавалі. Ён кажа, што не хацеў, каб каштоўны для гісторыі рэгіёна дакумент застаўся за мяжой. Варта, каб яго маглі ўбачыць мясцовыя людзі.

Старыя тэксты не толькі пераказваюць каштоўныя для гісторыі факты. Яны адлюстроўваюць погляды і спосаб мыслення, якія панавалі ў пэўную гістарычную эпоху.

Як польскае грамадзянства ўспрымала наш край паміж І і ІІ Сусветнай войнамі? Невядомы, нават экзатычны рэгіён з прыгожай прыродай – і насельніцтва, якое ў гаспадарчым і культурным развіцці значна адстае ад цэнтральнай Польшчы. Палякі – многія з усёй шчырасцю – адчувалі абавязак развіваць ускраінныя рэгіёны. Яны, аднак, не бралі пад увагу, што тут жыве беларускі народ, які мае сваю мову і нацыянальную свядомасць. Насельніцтву навязвалі польскую культуру, будавалі на беларускіх землях… Польшчу.



Касцёл Сэрца Езуса ў Падсвіллі. *Фота з часопіса Przewodnik Katolicki, № 9, 1932 год.*

### Як паўстаў касцёл у Падсвіллі

Падсвілле! (пав[ет] Дзісна, віленскае вая[водства]). Панам паляўнічым прыпомніцца можа малая станцыйка, добразычлівы начальнік станцыі, колькі беларусаў, у якіх і вачэй з-пад шапкі не ўбачыш - такі хадзячы "кажух" у лапцях, і - колькі жыдкоў як дапаўненне нашых краёў.

Паляўнічыя ведаюць, што тут рай для іх, літаральна зямля абяцаная – ваўкі, глушцы – каралеўскія птахі пушчы, цецерукі, курапаткі… Вось жа гэтае даўняе "ваўчынае логвішча" змянілася да непазнавальнасці дзякуючы стараннасці і ахвярнасці "капістаў", то бок жаўнераў Корпуса Аховы Памежжа, якія як рыцары ўскраін не толькі верна трымаюць тут варту, але і будуюць… Польшчу.

Паклапаціліся аб магілах палеглых – і даўніх, з 1863 года, і новых, з апошняй вайны, і атрымаўшы кавалак зямлі ад абшарніцы п[ані] Маркевічавай, заснавалі ім могілкі. Пасля могілак пачалі думаць пра касцёл. І зноў – зямля ад п[ані] Маркевічавай, ахвяры камандзіраў, афіцэраў, падафіцэраў 7 батальёна КАП, абшарнікаў, вайсковых асаднікаў, і нават беззямельных бедакоў.

Праз два гады паўстаў касцёл. Асвяцілі яго з прыгожай урачыстасцю сёлета 2 лютага. Пасвяціў яго ксёндз доктар Элерт з Вільні. Урачыстасць запомнілася ў Падсвіллі, казанне ксяндза магістра Новака было глыбокім і кранальным, прамовы за святочным сталом корпуса афіцэраў батальёна Падсвілле – поўнымі веры і старапольскай сардэчнасці.

Пашана ўсім дабрадзеям і ахвярадаўцам, якія дапамаглі будове гэтай цвярдыні веры і лацінскай культуры на ўскраінах.



Падмуркі ад касцёла, якія і сёння бачныя на ўскраіне мястэчка пры дарозе Падсвілле-Галубічы. Касцёл разбураны ў 1980-я гг. *Фота Кастуся Шыталя.*

## Фота са старога альбома: учора і сёння

# Глыбокае, якога ўжо няма!

***Глыбокае да вайны не было закінутай "дзіркай" з лужынамі гразі на вуліцах, саламянымі стрэхамі ды крывымі платамі, як гэта нам некалі даводзілі савецкія прапагандысты. Старыя здымкі – таму сведчанне!***

***На жаль, усе будынкі, якія бачныя на здымках злева – знішчаныя ў пачатку ліпеня 1944 года пры адыходзе немцаў з Глыбокага.***

Вул. імя кс.Бандурскага: будаўніцтва школы паўшэхнай №2.
*Фота Леанарда Рачыцкага.*




Вул. Камуністычная (насупраць ГДК), жылы 16-кватэрны дом на месцы школы паўшэхнай. *Фота Ул. Скрабатуна, зіма 2015 г.*



Тэхнікум на рагу вуліц Вейскай і імя кс. Бандурскага.
*Фота П. Ямскага, зіма 1939 года.*



Скрыжаванне вуліц Піянерскай і Камуністычнай, на месцы тэхнікума сёння – аптэка доктара Шчэбета.
*Фота Ул. Скрабатуна, зіма 2015 г.*



# Верш, які стварае гонар Маякоўскаму

**Гэта верш – "Долг Украине". Ён надрукаваны ў нумары 9 за 3 лютага 2015 года, у "Народнай волі, у тэксце эсэ Анатоля Вярцінскага – "Эта мова величава и проста…" або Маякоўскі супраць… Пуціна".**



**Марыя Баравік,**
*сябра СБП, г.п. Падсвілле.*

Вярцінскі па-новаму адкрывае Маякоўскага, прачытаўшы яго вершы 1926-1927 гадоў у 4-ым томе дванаццітомнага збору твораў. Ён каментуе ідэйны змест верша "Нашему юношеству" і выяўляе, што Маякоўскі "сцвярджае як данасць факт існавання моў ("глаголов") тытульных нацый і рэальны, а не фальшывы, замяшаны на імперскасці інтэрнацыяналізм. "Паказальнае гэта вось "Москва для нас не державный аркан". Маякоўскі яўна не ўспрыймае (і не прымае) гэты самы вялікадзяржаўны шавінізм". Бо панятак (усюды, дзе славіць паэт рэспубліку паводле рамантычнага ідэалу) сацыялізм – "свободный труд свободно собравшихся людей". А камуна – "огромная высота… глубочайшая глубина… место, где исчезнут чиновники и где будет много стихов и песен".

Анатоль Ільіч прапануе чытачу разгледзець і пракаментаваць верш Маякоўскага "Долг Украине", надрукаваны ўпершыню ў кастрычніку 1926 года ў газеце "Известия ЦИК" (прыдаючы мне цікаўнасці). Ён дадае, "што Уладзімір Уладзіміравіч Маякоўскі яўна не ўхваляе, мякка кажучы, ганебную агрэсіўную дзейнасць у дачыненні да Украіны свайго цёзкі, наваяўленага "русапета" Уладзіміра Уладзіміравіча Пуціна". І я разглядаю верш.

Адразу трапляю пад пытанне: "Знаете ли вы украинскую ночь?" Вось куды кіруе паэт гогалеўскім крылатым выразам. Вы думаеце, – здагадваюся я і падтакваю Маякоўскаму, – што "чуден Днепр при тихой погоде…" і толькі?...

Нет,
вы не знаете украинской ночи!
Здесь
небо
от дыма
становится черно…

Тут я далучаюся да паэтавай думкі з сёняшняга дня XXI стагоддзя:

Майдан – крывёй старанне, ад свабоды…

Пад сто гадоў таму ў неба ўклінілася шчырая мара і дзея.

И герб
звездой пятиконечной вточен.

Для роўнасці (паводле сацыялізму) і дастойнага жыцця разняволенага і свабодналюбнага народа. Была неабходнасць и вера, што

Проводов уздой
смирив Днепровье,
Днепр
заставят
на турбины течь.
І вось
Днипро
по проволакам-усам
электричеством
течёт по корпусам.
Небось, рафинада
и Гоголю надо!

І сёння трэба, кожнаму народу. Неабходна жыць па-чалавечы. І, найперш, знаць вартасць таго, хто побач. "Мы знаем, – кажа Маякоўскі, – курит ли, пьёт ли Чаплин; мы знаем Италии безрукие руины" і г.д. "А что мы знаем о лице Украины?"

Мяне светла закранае слова "лицо".

Знаний груз
у русского
тощ –
тем, кто рядом,
почёта мало.

Не даходзіць знаць "лицо Украины" гожую стрункасць духу, гісторыю і ўсё, што выцякае з гэтага.

Говорю себе:
товарищ москаль,
на Украину
шуток не скаль.
Разучите



эту мову
на знаменах –
лексиконах алых, –
эта мова
величава и проста:
"чуешь, сурмы заграли,
час расплаты настав…"

І ці можа выказаць гэтую сутнасць "поистасканное" слова "слышишь"? "Слышить" можна і так, і гэтак. А вось у слове "чуешь" столькі яшчэ і годна-пачуццёвага, "полновесного" патрыятычнага зместу. Як сказаў (праўда, у іншым выпадку) Гогаль: "Сколько разных чувств…". Колькі пачуццяў заклікальна ўпісана ў яго, і яно кіруе пры неабходнасці… Бо роднае гэтаму народу, які стварыў мову, вельмі адпаведную яго характару, духоўнай накіраванасці. Згодна з народна-чалавечым пачуццём і зрокам. Адчуваннем ісціны, якая і стварае парыў абарончага дзеяння.

Трудно
людей
в одно истолочь,
собой
кичись не очень.
Знаем ли мы украинскую ночь?
Нет,
мы не знаем украинской ночи.

Так вось я трапіла сёння ў русло думкі Маякоўскага і Вярцінскага. І ўдзячна Анатолю Ільічу за літаратурную разведку. Яна стварае радасць узаемаразумення. І прасвятляе адказ на пытанне: хто ёсць хто?

## Новыя правілы для іпэшнікаў: тавары без дакументаў дазволяць, а падатак павысяць

**У бліжэйшы час у Беларусі павінен быць падпісаны новы ўказ, які вызначае правілы гандлю таварамі лёгкай прамысловасці без дакументаў.**

Якгаворыццаўтлумачэнні Міністэрства па падатках і зборах, індывідуальным прадпрымальнікам-плацельшчыкам адзінага падатку дадзена права прадаваць тавары без дакументаў, увезеныя з тэрыторыі краін Мытнага саюза. Правіла будзе тычыцца гандлёвых аб'ектаў (за выключэннем магазінаў) і гандлёвых месцаў на рынках.

Аднак, пры гэтым за ажыццяўленне рознічнага гандлю таварамі без дакументаў прадугледжваецца выплата адзінага падатку з прымяненнем павышальнага каэфіцыента 2 і выплата ПДВ у фіксаваных сумах у павялічаных памерах.

Падпісанне дакумента чакаецца ў бліжэйшы час.

У Міністэрстве па падатках і зборах таксама патлумачылі, як працаваць іпэшнікам да афіцыйнага апублікавання дакумента.

Тыя, хто ў сакавіку 2015 плануе ажыццяўляць рознічны гандаль таварамі без дакументаў, абавязаны да пачатку ажыццяўлення дзейнасці падаць падатковую дэкларацыю (разлік) па адзіным падатку і зрабіць выплату адзінага падатку і ПДВ у фіксаванай суме. Пры гэтым падатковая дэкларацыя падаецца на папяровым носьбіце. У гэтай дэкларацыі плацельшчыкам трэба палічыць адзіны падатак з прымяненнем павышальнага каэфіцыента 2 за рэалізацыю тавараў без дакументаў і ПДВ у фіксаваных сумах у памеры дзвюх ставак адзінага падатку (без уліку павышальнага каэфіцыента 2 за рэалізацыю тавараў без дакументаў).

Гэта значыць, іпэшнікам трэба будзе заплаціць падатак па старых правілах.

«Пасля таго, як уступіць у дзеянне новы ўказ, ІП трэба будзе даплаціць адзіны падатак і ПДВ у фіксаваных сумах у залежнасці ад сум, якія будуць устаноўлены», - растлумачылі ў Міністэрстве па падатках і зборах.

У праекце ўказа гаворыцца пра тое, што даплата павінна быць праведзена не пазней за 31 сакавіка 2015 года.

Нагадаем, 1 сакавіка павінен быў уступіць у сілу ўказ № 222, паводле якога іпэшнікі не маглі прадаваць тавары лёгкай прамысловасці без дакументаў.

Прадпрымальнікі заявілі, што многія з іх будуць не ў стане выканаць гэтыя патрабаванні і збіраліся спыняць працу. За дзень да ўступлення дакумента ў сілу ўрад пайшоў на саступкі: іпэшнікам далі адтэрміноўку «на бліжэйшы час» — да таго часу, пакуль не будзе падрыхтаваны новы дакумент. Аднак, 1 сакавіка многія рынкі краіны пуставалі. Па дадзеных прадпрымальніцкіх аб'яднанняў, на працу не выйшла каля 80% іпэшнікаў.

*finance.tut.by*

## Алесь Лагвінец: Калі дзейнічаць, шанец змяніць сітуацыю ёсць

**Грамадскія слуханні ў рамках кампаніі "Народны рэферэндум" па пытанні бязвізавага рэжыму з Еўразвязам прайшлі 28 лютага ў Шаркоўшчыне.**

■ **Зміцер Лупач**

Правялі гэта мерапрыемства Ігар Лялькоў, намеснік кіраўніка Партыі БНФ "Адраджэнне", і Алесь Лагвінец, намеснік кіраўніка Руху "За Свабоду". У слуханнях удзельнічала каля двух дзясяткаў чалавек з Шаркоўшчыны і раёна, а таксама госці з Глыбокага.

Народны рэферэндум – палітычная кампанія ў Беларусі, якая распачалася ў 2013 годзе. Па словах арганізатараў, мэта кампаніі – правядзенне рэферэндуму па шэрагу важных знешне- і ўнутрыпалітычных пытанняў. Ініцыятарамі кампаніі сталі шэраг апазіцыйных палітычных і грамадскіх арганізацый.

Пасля сустрэч з грамадзянамі былі выбраныя шэсць важнейшых пытанняў, якія плануецца вынесці на рэферэндум. Адно з іх – гэта пытанне бязвізавага рэжыму з Еўропай. Яно гучыць так: "Ці падтрымліваеце вы курс на эканамічную інтэграцыю, асацыяцыю і стварэнне бязвізавай прасторы з Еўрапейскім Саюзам?"

Распачаў сустрэчу Ігар Лялькоў, які праінфармаваў удзельнікаў пра кампанію "Народны рэферэндум" і канкрэтна пра пытанне бязвізавага рэжыму з Еўропай. Ён прадставіў асноўнага дакладчыка па гэтай тэме Алеся Лагвінца.

Алесь Лагвінец распавёў прысутным пра актуальнасць гэтага пытання для беларусаў. Як вядома, грамадзяне Беларусі з'яўляюцца лідарамі па атрыманні Шэнгенскіх візаў на 1000 чалавек. Тым не менш, кошт гэтай візы для беларусаў з'яўляецца самым высокім і складае 60 еўра. Расіяне і ўкраінцы плацяць за яе амаль у два разы менш.

Беларускія ўлады спрабуюць давесці насельніцтву, што віна ляжыць цалкам на еўрапейскім баку. Але на самай справе гэта не так.

На першы погляд, узнікае пытанне, а што грамадскасць можа памяняць у гэтай справе, калі яна не ўплывае на прыняцце важных рашэнняў у краіне? Але, па словах дакладчыка, калі дзейнічаць, то шанец памяняць сітуацыю ёсць. Вядома, лягчэй за ўсё казаць, што ў нас усё кепска і нічога не рабіць, але ж тады нічога і не зменіцца.

– Любая ўлада спрабуе захавацца. І для таго, каб захавацца, нешта для людзей яна будзе рабіць. Пытанне толькі, што людзі чакаюць ад гэтай улады, – адзначыў Алесь Лагвінец і ў якасці прыклада прывёў выпадак, калі ўлада прапаноўвала браць па сто даляраў за выезд за мяжу. Тады гэта выклікала вялікае абурэнне ў грамадстве і гэта ініцыятыва не была прынятая.

Таму, па словах дакладчыка, калі большасць людзей падтрымае гэтую ідэю, то ўлады з гэтым будуць вымушаныя лічыцца. І таму ідэю правядзення рэферэндуму арганізатары разглядаюць як сродак, а не мэту. Бо, вядома, цяперашняя ўлада ніколі не пагадзіцца яго правесці. Але праз гэту кампанію можна неяк уплываць на рашэнні, што прымаюцца ў вярхах.

– Зараз стаіць пытанне абудзіць людзей, абудзіць праз гэты мірны спосаб, каб беларусы былі гатовыя і здольныя абараняць свае правы, – адзначыў Алесь Лагвінец.

Ну, а закончылася сустрэча выступленнем барда Змітра Бартосіка, які выканаў некалькі сваіх твораў.



# Сотні чалавек маглі б застацца без вуха...

## калі б зараз дзейнічалі законы Вялікага княства

**У краіне дзясяткі, сотні парушальнікаў прыродаахоўнага заканадаўства затрымліваюцца супрацоўнікамі Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету толькі за адзін тыдзень, але праблема экалогіі, захаванне прыродных багаццяў краіны не губляе сваю актуальнасць. Нягледзячы на велізарныя штрафы, пазбаўленне волі за прыродаахоўныя парушэнні браканьеры працягваюць тварыць свае цёмныя справы.**

■ **А.В. Протас,** *начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Дзяржава не сыходзіць ад праблемы браканьерства, а прымае актыўныя і пастаянныя меры і намаганні па яго выкараненні. Часам можа здацца, што прымаюцца меры па навядзенні парадку ў прыродаахоўнай сферы жорсткія, значыць па іншаму нельга. Толькі за апошнія гады дзясяткі тысяч браканьераў і парушальнікаў парадку панеслі суровыя пакаранні, за нанесеную прыродзе шкоду, з парушальнікаў спаганыя мільярды рублёў.

Нагадваем усім грамадзянам, што па Віцебскай вобласці **з 9 сакавіка па 29 красавіка** надыходзіць забарона на лоўлю шчупака ўсімі спосабамі і сродкамі. Агульная забарона і абмежаванні на лоўлю рыбы на тэрыторыі Віцебскай вобласці надыходзіць **з 10 красавіка па 8 чэрвеня**, лоўля дазволена толькі адной вудай з адным кручком або з берага адным спінінгам, абсталяваным адной блясной.

Мы не аднаразова пісалі, што браканьерства падобна да крадзяжу, і гэта выкараніць няпроста. У старажытныя часы з браканьерствам вялі барацьбу самымі жорсткімі мерамі. Так, у «статусе Вялікага Княства Літоўскага за 1588 год за браканьерскі вылаў рыбы прадугледжваліся суровыя пакаранні: біццё плёткамі за першы раз, за другі раз – адразанне вуха, смяротнае пакаранне – за трэці. Калі судзіць па апошніх пяці гадах, то сумны лёс маглі б спасцігнуць сотні чалавек, якія ўчынілі факты браканьерства.

Можа быць, гэта і суровая мера, але, мабыць, у тыя часы была вельмі неабходная. Цяпер законы больш гуманныя і цялесныя пакаранні не прымяняюцца.

Яшчэ адна праблема – экалагічная. Многія вадаёмы, прыбярэжныя палосы і лясныя масівы захламлены смеццем. Прычына банальная – чалавечае бескультур'е.

Двое жыхароў в. Сяргеевічы Пастаўскага раёна ў свой выхадны дзень вырашылі трохі яго разнастаіць і правесці час на прыродзе, толькі, відаць, з фантазіяй у сяброў не вельмі, усё, што змаглі прыдумаць мужыкі, гэта купіць 5 бутэлек віна «Музыка лета» і пайсці ў бліжэйшы лясок піць. Пустыя бутэлькі з-пад віна выкідалі тут жа ў лесе, але інспектары Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету заўважылі «салодкую парачку» за гэтай непрыстойнай справай, прымусілі прыбраць ўсё смецце і выпісалі салідны грашовы штраф.

Такіх прыкладаў можна прыводзіць дзясяткі. Сыдзе снег - і ў нашых лясах, нібы пралескі, павылазяць дзясяткі, сотні смеццевых звалак, асабліва каля гарадоў, вёсак, азёр. Работнікі лясгасаў, арандатары вадаёмаў, валанцёры, школьнікі, камунальнікі – усе пойдуць прыбіраць гэтыя «пралескі», але толькі не тыя, хто загадзіў зямлю, затое, крычаць з-за кута аб абавязку і адказнасці дзяржавы і работнікаў дзяржорганаў такія дзеячы будуць самымі першымі .

Мы яшчэ не адвыклі ківаць на іншых, лічачы, што хтосьці, перш за ўсё дзяржаўныя органы, абавязаныя вырашаць праблемы экалогіі, клапаціцца аб захаванні прыродных багаццяў, пры гэтым не задумваемся над тым, якія страты прыродзе наносім непасрэдна мы самі, кіруючыся прыказкай «пакуль гром не грымне, мужык не перахрысціцца». Так, гэта наша праблема, але дзяржава ад яе не адхрышчваецца, а зусім наадварот, вырашае яе ўсімі сіламі.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя дзякуе ўсім грамадзянам, якія аказваюць дапамогу ў барацьбе з браканьерствам.

**Аб усіх парушэннях прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць на «тэлефон даверу» Глыбоцкай МРІ:**

**2-86-70 – кругласутачна, мабільныя тэлефоны: 8972302, 8905528, 2494549, 6456678 – кругласутачна.**





# Падключэнне да электрычных сетак юрыдычных асоб і індывідуальных прадпрымальнікаў у адпаведнасці з Указам Прэзідэнта №397 ад 6 Жніўня 2014 «Аб тэхналагічным далучэнні электраўстановак»

**З мэтай спрашчэння працэдуры падлучэння суб'ектаў малога і сярэдняга бізнэсу Рэспублікі Беларусь да электрычных сетак, прыняты Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь №397 ад 6 жніўні 2014 «Аб тэхналагічным далучэнні электраўстановак», які прадугледжвае арганізацыю працэсу па падлучэнні электраўстановак магутнасцю да 250 кВА да электрычных сетак па прынцыпе «Адно акно».**

■ **А.П. Глушонак,** *галоўны інжынер Глыбоцкага раёна электрычных сетак філіяла «Глыбоцкія электрычныя сеткі» РУП «Віцебскэнерга»*

Дадзены Указ даў альтэрнатыву юрыдычнай асобе ці індывідуальнаму прадпрымальніку замест самастойнага праходжання ўсіх этапаў тэхналагічнага далучэння перакласці гэтую працу на энергазабеспячальныя арганізацыі.

Тэхналагічнае далучэнне ўключае ў сябе этапы:

■ падрыхтоўка тэхнічных умоў;

■ распрацоўка на іх падставе праектнай дакументацыі;

■ выкананне пошукавых, будаўнічых, мантажных і іншых работ;

■ непасрэднае падлучэнне пабудаваных аб'ектаў электразабеспячэння і ўводна-размеркавальных прылад да электрычных сетак энергазабеспячальных арганізацый і афармленне адпаведных прававстанаўліваючых дакументаў;

■ атрыманне прадугледжаных дазволаў і ўзгадненняў.

Па пытанні «Тэхналагічнага далучэння электраўстановак» Вы можаце звярнуцца ў «Адно акно» па адрасе: г. Глыбокае, вул. Я. Коласа, д.№22б, дзе Вам падрабязна раскажуць пра дадзеную працэдуру, заключаць тыпавы дагавор і падключаць вашыя электраўстаноўкі да электрычных сетак у тэрмін да 100 дзён, калі для вашага падключэння неабходна пабудаваць трансфарматарную падстанцыю і лінію электраперадач да 0,5 км.

## Мастак Віктар Крук:

# Барадулін быў добры, адкрыты, вясёлы чалавек



**У Шаркаўшчынскай раённай бібліятэцы 24 лютага адбылася літаратурная вечарына, прысвечаная 80-годдзю з Дня нараджэння Народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна.**

■ **Зміцер Лупач**

Яна называлася “Чараўнік паэтычнай стыхіі” і была падрыхтаваная сумесна работнікамі бібліятэкі і Адай Райчонак, кіраўніком культурна-асветніцкага Цэнтра імя Язэпа Драздовіча.

На мерапрыемстве былі прачытаныя вершы Рыгора Барадуліна, прагучалі песні, напісаныя на яго словы.

Адным з першых быў прачытаны верш “Бацьку”, які найбольш вядомы сярод беларусаў. Дарэчы, гэты верш прапаноўваўся для агульнанацыянальнай дыктоўкі.

Удзельнікі мерапрыемства, якіх было некалькі дзясяткаў чалавек, прагледзелі фрагменты з фільма пра Рыгора Барадуліна. Ада Райчонак прадставіла карціны, напісаныя беларускімі мастакамі на пленэры, прысвечаным Рыгору Барадуліну.

Гаворыць мастак Віктар Крук, які пазнаёміўся з дзядзькам Рыгорам менавіта на такім пленэры:

“З Рыгорам Іванавічам упершыню мы пазнаёміліся на пленэры, прысвечаным Васілю Быкаву, які арганізоўваў культурна-асветніцкі Цэнтр імя Язэпа Драздовіча. Пленэр праводзіўся на радзіме Васіля Быкава ў Бычках і, зразумела, на гэтым пленэры быў, сказалі што будзе Рыгор Іванавіч. І ў мяне было такое ўзнёслае адчуванне, што я сустрэнуся з паэтам, якога ведаў, але асабіста з ім ні разу не сустракаўся.

Менавіта на гэтым пленэры мы сустрэліся, і, убачыўшы Рыгора Іванавіча, Народнага паэта, у мяне было такое ўяўленне, што гэты чалавек можа сябе крыху падымае над іншымі. Не, гэта быў звычайны, добры, вясёлы, адкрыты, які кантактаваў з любым.”



Сваімі ўспамінамі аб паэце падзялілася і Ада Райчонак, якая сябравала з ім і яго жонкай. Яна распавяла, які просты і адкрыты ён быў чалавек, як яна з сябрамі дапамагала яму. Успомніла і адзін камічны выпадак, які ў яе з ім здарыўся:

“Вельмі цікавы ён быў чалавек, танцы любіў. Аднойчы, калі было адкрыццё пленэра, тады збіралася шмат гасцей, на палянцы сталы паставілі мы… А ён уздумаў пусціцца ў скокі. Ну, польку. Пайшлі мы з ім польку танцаваць, я з ім танцавала. У мяне абцас адламаўся, я хацела другі шлёпанец скінуць, падкінула яго ўверх, і аднаму нашаму чалавеку проста ў талерку.”

На мерапрыемстве прысутнічала і загадчыца аддзела ідэалогіі і культуры Людміла Стома, якая таксама выступіла на вечарыне. Дарэчы, яе выступ быў на добрай беларускай мове, хаця звычайна яна гаворыць па-руску.

Прысутныя былі вельмі задаволеныя праведзеным мерапрыемствам і выказалі жаданне, каб і надалей сумесна працаваць у гэтым накірунку прадстаўнікам мясцовай улады і грамадскасці.

